

*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*

# ШКЛОЎ інфо

№7 (69) чэрвень 2013

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

***Рыгор Кастусёў***

## 25-годдзе «Гарадзецкіх урокаў»

**Мінула ўжо 25 год з тае пары, як А. Лукашэнка, працуючы дырэктарам саўгаса “Гарадзец” Шклоўскага раёна, распачаў актыўную прапаганду новых форм працы ў сельскай гаспадарцы — арэнднага падрада, кааператываў, якія, па яго словах, павінны былі выбіць глебу з-пад ног чыноўнікаў.**

“Адкатаўшы” ў 1987 годзе новыя формы гаспадарання ў “Гарадцы”, ён распачаў актыўна іх прапагандаваць не толькі ў Беларусі, а і для іншых рэгіёнаў Савецкага Саюза. Да яго ў гаспадарку ехалі шматлікія дэлегацыі за вопытам. У 1990 годзе нават пабачыла свет кніга А. Лукашэнкі “Гарадзецкія ўрокі”, дзе ён дзяліўся досведам рэфармавання саўгаса. Асноўную мэту рэфармавання гаспадаркі Аляксандр Рыгоравіч бачыў у наданні арэндным кааператывам поўнай самастойнасці, а потым — у аб’яднанні іх у асацыяцыю, дзе кожны кааператыў меў бы свой разліковы рахунак і свой статут. Кожны кааператыў мусіў самастойна вызначаць сваю гаспадарчую дзейнасць, планаваць вытворчасць прадукцыі ў неабходных, разумных аб’ёмах, якія будуць залежыць ад патрабаванняў рынку. *“У 1987 годзе зрабілі першы, але рашаючы крок, разабраліся з кіраўніцкім апаратам і групай спецыялістаў. Непатрэбныя, так званыя “баластныя” адзінкі скарацілі. Астатнім вызначылі новыя функцыянальныя абавязкі — больш пашыраныя, але канкрэтныя і дакладныя… Настане час — і адміністрацыя саўгаса “Гарадзец”, можа быць, і стане непатрэбнай. Не выключаю, што паступова яе зменіць савет аб’яднання (асацыяцыі) арэндных кааператываў з іншымі задачамі і зусім новымі функцыянальнымі абавязкамі“,* — пісаў ён у сваёй кнізе. На працягу ўсёй кнігі прыводзяцца доказы, што пры пераходзе на новыя формы чалавек становіцца сапраўдным гаспадаром на зямлі. Не на словах, а на справе. Што невялікія калектывы і фермерскія гаспадаркі адраджаюць вёску, вяртаюць яе да паўнацэннага жыцця. Перспектывы новых форм гаспадараня А. Лукашэнка прапагандаваў і сваім асабістым прыкладам. Паралельна з дырэктарствам у саўгасе, ён быў яшчэ зарэгістраваны і фермерам. *“Селянін, рабочы павінны цвёрда ведаць, што арэнда — гэта не даніна якойсці модзе, гэта не павевы часу, а надоўга. Калі ў самыя кароткія тэрміны карэнным чынам не зменіцца псіхалогія людзей, якія адвыклі дзейнічаць па-гаспадарску, нічога талковага не будзе…”.* Не абыдзена ўвагай у кнізе і пытанне мясцовага самакіравання на сяле ў выглядзе сельскіх Саветаў, са спадзяваннямі, што адпаведныя органы надзеляць іх (сельскія Саветы) неабходнымі паўнамоцтвамі, дадуць правы і вызначаць абавязкі. Такім чынам, Саветы стануць сапраўднымі абаронцамі арандатараў, фермераў, падрадных калектываў, не дапусцяць, каб іх абіралі, прыгняталі, пазбаўлялі ўсялякіх даброт. …З тае пары прайшло 25 год. Шмат чаго змянілася: распаўся Савецкі Саюз, Беларусь стала незалежнай дзяржавай, а А. Лукашэнка стаў першым прэзідэнтам. І ў яго з’явіліся магчымасці правядзення рэформаў не ў асобна ўзятым саўгасе “Гарадзец”, а ва ўсёй сельскай гаспадарцы краіны. Але ж што атрымалася ў выніку? Што сталася з “Гарадцом”? Што сталася з беларускай вёскай? У саўгасе “Гарадзец” за гэты час змянілася каля дзесятка дырэктароў. Пра арэндны падрад там ужо ніхто нічога і не памятае. А на зямлі ў беларускай вёсцы як не было гаспадара, так і няма. Колькасць фермераў у краіне за гэты час

скарацілася ў разы. Адміністратыўна-камандная сістэма не тое, што не зжывае сябе ў рэгіёнах, а наадварот, яшчэ больш мёртвай хваткай ахоплівае ўсе сферы мясцовага жыцця. Усё гэта вядзе да таго, што адбываецца інтэнсіўнае старэнне і збядненне сельскага насельніцтва. Зачынены сотні вясковых школ, устаноў культуры і аховы здароўя. Моладзь не бачыць перспектывы ў вясковым жыцці. І самае страшнае — з года ў год узмацняецца грабежніцкая палітыка дзяржавы ў адносінах да вясковага насельніцтва. З мапы Беларусі зніклі і працягваюць знікаць тысячы так званых "неперспектыўных" вёсак. Але, нягледзечы на скарачэнне вясковага насельніцтва, колькасць чыноўнікаў у сельскіх рэгіёнах і чыноўнікаў, звязаных з сельскагаспадарчай вытворчасцю, за гэтыя гады значна ўзрасла. Дык чаму ж Аляксандр Рыгоравіч, калі стаў прэзідэнтам, махнуў рукой на "гарадзецкія ўрокі"? Па-першае, таму, што рэфармаванне сельскай гаспадаркі прывяло б не толькі да скарачэння апарату чыноўнікаў у сельскагаспадарчых прадпрыемствах, а таксама і да скарачэння на ўзроўні раёнаў, абласцей, Мінсельгаса. А гэта тысячы і тысячы людзей, якія не маюць жадання пакідаць свае цёплыя крэслы ў кабінетах. Ды іншага яны нічога і рабіць не ўмеюць, толькі "кіраваць". Удзячныя за гэта, чыноўнікі ад сяла рэгулярна забяспечваюць яму неабходныя "элегантныя" перамогі на разнастайных выбарах у сваіх рэгіёнах. Па-другое, А. Лукашэнка разумее, што з'яўленне сапраўдных гаспадароў-уладальнікаў на зямлі — гэта рэальная пагроза існуючаму на Беларусі рэжыму. Кіраваць людзьмі, патрэбы якіх звузіліся да "чаркі і шкваркі", значна лягчэй і прасцей. За ўсе гэтыя гады, нават нягледечы на значныя фінансавыя ўліванні, сельская гаспадарка Беларусі так і не дасягнула адпаведных поспехаў. Відаць, настаў час Аляксандру Рыгоравічу, нарэшце, прачытаць сваю кнігу. Бо там ёсць вельмі дакладны выраз, з якім нельга не пагадзіцца: *"Калі ў самыя кароткія тэрміны карэнным чынам не зменіцца псіхалогія людзей, якія адвыклі дзейнічаць па-гаспадарску, нічога талковага не будзе…".*

Читать полностью: http://news.tut.by/society/349693.html

# Шкловский район в "Зеркале"

Социологический центр ООО "Зеркало-Инфо" проводил в апреле 2013 года в Шкловском районе исследование, направленное на изучение общественного мнения жителей по различным вопросам, касающимся отдельных сторон нашей жизни. Всего было опрошено 52 человека - 28 в деревнях и 24 в г.Шклове.

Телевидение смотрят в деревнях ежедневно все опрашиваемые, а вот в городе - 62,5%, при этом в деревнях пользуются интернетом ежедневно 25%, в городе - 42%. Никогда не пользуются интернетом также 42% жителей Шкловского района, среди сельских жителей таких - 57%. Кабельным и спутниковым телевидением в городе пользуется 83%, в деревнях - только 46% из опрашиваемых.

О существовании спутникового телеканала "Белсат" осведомлено только 37% горожан и 35% сельчан. Еще меньше пользователей этим каналом - 21 и 18% соответственно, при этом почти все они смотрят телеканал по Интернету. Ежелневно смотрит "Белсат" 12,5% горожан, сельчане смотрят его лишь несколько раз в неделю и даже в месяц. основная информация, интересующая жителей Шкловского района на "Белсате" - новости. А вот претензий к телеканалу довольно много - недостатет материалов публицистических, информационных, сатирических и развлекательных, образовательных программ и документального кино. В то же время, респоденты полностью согласны с содержанием актуальной информации, отмечают профессиональзм ведущих, правда, полностью доверяют передачам телеканала только 20% опрашиваемых.

Из ответов на другие вопросы. Уверенными в завтрашнем дне чувствуют себя только 25% жмителей Шкловского района, в том числе 29% горожане. Примерно такое же соотношение и в неуверенных в себе и грядущей жизни. Причина, скорее, в тех изменениях в экономике, которые происходят в последнее время. Положительно экономическую политику государства оценил только 1 респодент, а вот негатив в сегодняшнем дне видят 50% опрашиваемых. Не заметило изменений в экономике только 7,7% шкловчан.

Особое мнение высказано по поводу профсоюзных организаций, действующих в Шкловском районе. В целом 58% опрашиваемых считают, что профсоюз должен быть, а руководитель организации обязательно должен быть его членом. При этом, 59% выска-

зался за отсутствие препятствий для регистрации независимого профсоюза. Ни один из шкловчан не высказался против данного мнения, хотя 41% на этот вопрос затруднились ответить. Еще более кардинальную позицию шкловчане занимают по поводу вступления и выхода из профсоюза - 65% респодентов считает, что эти действия не должны носить репрессивный характер со стороны руководства предприятий, так же как и прием на работу не должен быть связан с членством как в официальном, так и в независимом профсоюзе. Впрочем, как и карьерный рост. 61,5% считает, что наниматель не должен препятствовать перечислению профсоюзных взносов по добровольному письменному заявлению работников независимо от принадлежности к профсоюзу. По мнению опрошенных (67%), профсоюзные лидеры должны иметь свободный доступ на предприятие, к рабочим местам членов своих профсоюзов. Против этого только 1 из опрашиваемых.

Что профсоюз должен иметь кассу взаимопомощи бастующим работникам одобряют 63% шкловчан, среди горожан такое мнение имеет 70%. Согласитесь, для местной власти это своего рода неприятный сюрприз, более того, ведь в такую кассу взаимопомощи готовы перечислять хоть сегодня часть своей зарплаты 46% сельских респодентов и 71% городских. В свою очередь, 62% считает, что профсоюз обязан помогать трудоустраиваться работникам, уволенным в связи с борьбой за свои законные права. И опять же - ни один из опрашиваемых не высказался против данного условия.

О том, что профсоюзы должны иметь реальные связи с профсоюзами других стран для оказания международной солидарной помощи, одобряют 60% жителей Шкловского района - при этом на селе таких сторонников на 1% больше, чем в городе.

Если говорить о будущем Беларуси, то судьбу страны с Россией связывает только 4% опрашиваемых - исключительно жители деревни. Не слишком много - только 28% - и сторонников за вхождение Беларуси в состав Европейского союза (42% горожан ответило положительно на этот вопрос). А вот за сохранение и развитие СНГ “проголосовало” 56% шкловчан (город отдал будущему Беларуси в СНГ 50%).

В тоже время на негативное влияние на Беларусь со стороны Европейского союза указывают только 8% респодентов, на Россию - 10%, а вот главным виновником существующих бед в стране 17% опрошенных считает родное правительство. Как ни странно, но оппозиция “виновата” только на 3,8%, а 7,7% считает, что ни кто вообще не виноват в наших трудностях (выходит, что сами).

Разошлись мнения и по поводу приватизации белорусской государственной собственности. Сторонников реализации имущества европейским покупателям 40%, российским 21%, а на первом месте - белорусские инвесторы - 33% респодентов высказалось в их пользу. Сторонников китайского капитала на просторах шкловской земли не нашлось.

За сокращение государственных чиновников высказалось 92% опрашиваемых - видимо, достали всех, особенно горожан - за тотальное сокращение - 96% жителей Шклова. Не зря, наверное, мнение респодентов, что благополучие народа обеспечит наличие надежных, реально действующих законов, превалирует среди опрашиваемых - 63% высказались положительно по данному поводу. А вот за “достойных людей в руководстве” только 34%, ибо многим уже до такой степени надоело хамство слуг народа (не только депутатов), что 25% на подобное поведение чиновников уже никак и не реагирует, а 27% терпит, внутренне возмущаясь. Возмущается при этом 42% посетителей госучреждений, но добивается своего только 15% из смелых.

Услугами белорусских банков не пользуется половина респодентов - хранить по причине бедности там нечего, 19% опрашиваемых не боиться хранить вклады в белорусских рублях, а 40% полностью отдает предпочтение иностраной валюте.

Коррумпированной нашу власть считает 50% опрошенных, при этом сельчан в этом мнении несколько даже больше - видимо, приходится в повседневной жизни чаще встречаться с фактами мздоимства (возможно, посещая как раз город для решения личных проблем).

О том, что в Беларуси сегодня можно надеяться на справедливый суд, считает 10% опрошенных, а имеющих иное мнение - 59%. А это уже весьма и весьма неприятный симптом для местной власти, если даже на селе верующих в честность и справедливость местного же суда только 7,1%.

За конфискацию автомобиля у пьяного водителя "проголосовало" только 10% шкловчан, за штраф, равный стоимости автомобиля - 30%, за платное принудительное лечение от алкоголизма - 17%, за тюремный срок такому водителю - 13%. Не определилось с наказанием 22% опрошенных сельчан.

Бизнесменами, индивидуальными предпринимателями видят своих детей только 20% опрошенных, госслужащими и того менее - только 9%, работниками творческой профессии (художником, журналистом, программистом, юристом и т.д.) - 26%, квалифицированным работником (инженер, преподаватель, рабочий) - 29%.

Перспективу учебы за границей своих детей и внуков одобряет 54% респодентов (горожане - 79%), а вот 39% сельчан категорически против учебы в краях далеких.

Из опрошенных 90% являются православными и 10% католиками. Обычный режим питания в Великий пост сохраняют из них 75%, полностью соблюдают пост только 4% из опрошенных (без указания принадлежности к вере). 28% считает, что следует вести религиозное воспитание и образование в белорусских школах. Сторонников специализированного образования (обязательные для посещения воскресные школы) 35%, противников религиозного образования в Шкловском районе среди опрошенных - 25%.

На вопрос "сколько Вы хотели бы жить, сохраняя молодость и силу" 92% ответило "сколько отпущено природой". Сторонников вечной жизни только 2 человека (по одному в городе и деревне).

За свободу митингов и демонстраций 21% опрошенных, против - 33%. В личной свободе слова в Шкловском районе нуждаются 56%, 5 человекам из опрошенных она вообще не нужна.

Личная свобода выезда за границу необходима 44% опрошенных шкловчан, совершенно не нужна - 13%, при этом как среди сельчан, так и горожан эти мнения имеют одинаковую долю. Впрочем, не очень нужна свобода выезда только 7,3% горожан. Что ж, родина милее и это неоспоримо.

*В.Добрая*

# А что у соседей? Круглое

А у наших соседей в г.п. Круглое пытаются закрыть льнозавод. Причина банальная – убыточность производства. Ситуация обсуждается с областным, местным руководством и с работниками предприятия. Похоже, что уже с бывшими.

А долг у льнозавода немаленький – более 17 млрд. рублей, что на фоне полностью самортизированного устаревшего оборудования и «вчерашних» технологий не есть хорошо. Условия труда на заводе под стать состоянию основных средств: вентиляция не работает, рамы в производственных помещениях не подлежат даже ремонту, зимой температура в цехах одинакова с температурой снаружи, только что ветер не дует на работников; стены зданий постепенно разрушаются и ремонтировать их тоже не имеет смысла.

Решение о закрытии льнозавода было принято в силу отсутствия перспективы получения выгоды от деятельности данного предприятия – его расходы стали превышать в два раза доходы от реализации продукции. Завод придется законсервировать, основные узлы сдать на хранение, людей трудоустроить на других работах. Правда, мехотряд еще продолжает выращивать лен, который, скорее всего, перерабатывать будут в Шклове на местном льнозаводе. Там же предполагается трудоустроить и основную часть работниц с производственной линии. Однако, данный вариант работников льнозавода не устраивает и они требуют... возобновления работы производства.

Конечно, шкловский льнозавод по условиям труда намного превосходит круглянский, но ведь и добираться за 40 км ежедневно для женщин вариант не выигрышный. Тем более, что командировочные никто круглянским рабочим платить не будет – смысла в этом нет. Впрочем, как и смысла их вообще в Шклов возить – слишком накладно, да и свои кадры могут узреть в ситуации покушение на их доходы.

Есть и нюансы: на дворе льнозавода стоит новая техника. Рабочие говорят, что это и есть долги предприятия. А еще вспоминают одного из директоров завода, которым занимаются компетентные органы (ох, уже эта кадровая политика, и Круглое достала) в силу его слишком "вольных" действий с финансами завода.

А пока...а пока 80 работников льнозавода, которых устраивает зарплата в 2 млн. рублей, вынуждены находится в тревоге за свою судьбу.

*И.Мигаев*

# Юрый Жыгамонт: наша сіла – у гісторыі

Тыя, хто кажуць, што ў Беларусі няма чаго глядзець, не ведаюць, што плятуць. Гэтыя людзі проста не цікавяцца гісторыяй і нават не падазраюць, якая яна ў нас багатая, - сцвярджае галоўны папулярызатар гісторыі на беларускім тэлебачанні **Юрый Жыгамонт**, вядучы тэлеперадачы «Падарожжы дылетанта». Пра тое, чаму вядучы сышоў з тэатра, адкуль у яго цікавасць да гісторыі і чаму большасць выпускаў здымаюцца ў вёсках, Юрый Жыгамонт распавёў газеце «Аргументы і Факты». Некалькі перадач рабіў Юрый і пра Шклоўскі раён.

**Без прыроды — нікуды**. Па першай адукацыі Юрый Жыгамонт – кіроўца вежавых кранаў. Пасля прафтэхвучылішча ён яшчэ скончыў тэатральны інстытут і потым доўгі час быў акторам Тэатра юнага гледача. У 2001 годзе ў яго з'явілася дадатковая праца – вядучы новай тэлеперадачы «Падарожжы дылетанта» (потым перадача змяніла назву на «Новыя падарожжы дылетанта», а сёння завецца «Падарожжы дылетанта»). І вось ужо два гады гэта яго адзіная праца.

- *Не шкадую, што сышоў з тэатра,* - кажа Жыгамонт. - *У тэатры мне заўжды нешта замінала. І калі я думаю, чаму там не застаўся, дык прыходжу да высновы, што тэатральны я скончыў для таго, каб заняцца «Падарожжамі дылетанта».*

Юрый Жыгамонт кажа, што гісторыя яму была цікавая яшчэ з дзяцінства. Захапленне пачалося з дзедавых расповедаў пра колішнія часы. З часам гэтае захапленне перарасло ў хобі, а потым стала ягонай працай.

- *Казкі і гісторыі, што я пачуў ад дзеда і бацькоў у дзяцінстве, і сёння часам выкарыстоўваю ў сваіх перадачах.*

Адтуль жа, з дзяцінства, і цяга Юрыя Жыгамонта да вёскі і да прыроды. Жывучы ў Мінску, ён дагэтуль не можа доўгі час заставацца ў горадзе і выязджае ў родную вёску ў Нараўлянскім раёне.

- *Я наогул раю вяртацца да прыроды, да свайго. Паехаць на вёску на пару дзён, проста пабыць на прыродзе, схадзіць у лес, да рэчкі, на могілкі. Там, на прыродзе, ты напаўняешся неўміручымі жыццёвымі сіламі.*

Вядучы ўпэўнены, што нашы продкі-паганцы мелі рацыю, калі адухаўлялі зямлю, ваду, дрэвы ды камяні. І тое, што сёння многія людзі пачынаюць ізноў звяртацца да паганства – аднаўляць закінутыя некалі прошчы, браць адтуль зямлю, - цалкам натуральна.

- *Чым было дрэнна ведаць, што ў рэчцы жыве бог і што ваду гэтую забруджваць – вялікі грэх? Калі б сучасныя людзі верылі ў гэта, ведалі, што могуць быць пакараныя богам вады, яны бы яе не забруджвалі. І не трэба замінаць прыродзе. Мы жывем у сусвеце, які жывы. Трэба жыць у суладдзі з ім, а не быць у ім царом і богам.*

**Аб'ехаць ВКЛ**

У тым ліку і з прычыны яго стаўлення да прыроды большасць выпускаў перадачы – пра вёскі, а не гарады.

- *Вёска мне больш падабаецца. Мне там утульна, спакойна так. А горад – там іншае жыццё.*

Тое, што гісторыі беларускіх вёсак пакуль не такія вядомыя, таксама робіць іх больш цікавымі для даследвання, чым гарады. Напрыклад, адна з апошніх вандровак «дылетанта» была ў вёску Пярэдзелка Лоеўскага раёна. Вёска месціцца недалека ад мяжы з Украінай на высокім беразе Дняпра. Там стаіць палац шляхцічаў Рудзіеўскіх пачатку XIX стагоддзя, пра які ўвогуле мала хто чуў.

Неабыякавы Юрый Жыгамонт таксама і да традыцыйнай вясковай архітэктуры. Старыя драўляныя дамы, лічыць ён, трэба не пускаць на дровы, як гэта зараз робіцца, а захоўваць.

- *Дрэва – гэта тое, што ёсць у нас. Драўлянае дойлідства знікае, і гэтую спадчыну варта захоўваць.*

У той жа час не абмінаюць аўтары перадачы і гарады. Нядаўна выйшла перадача пра адзін з мікрараёнаў Гомеля. Менавіта так, па частках, яны збіраюцца расказваць пра гісторыю беларускіх гарадоў. Па-іншаму ў 26 хвілін перадачы не ўкласціся.

Вялікая ж мара Юрыя Жыгамонта – зрабіць серыю выпускаў пра гарады, мястэчкі і вёскі

ўсяго былога Вялікага княства Літоўскага. Здымачная група тэлеперадачы ўжо была ў Смаленску і Беластоку. Але гэтага зусім недастаткова.

*- Узяць толькі Украіну. У былыя часы мы разам змагаліся супраць татар. Луцк – гэта ўвогуле другая сталіца Вялікага княства. Вялікі князь Вітаўт будаваў там замак. А роды Астрожскіх, Вішнявецкіх. І там такая цікавая гісторыя для нас, беларусаў! Тое самае і ў Літве.*

**Сіла - у нас саміх**

І праз 12 гадоў ад выхаду першых «Падарожжаў дылетанта» аўтарам ёсць пра што здымаць новыя перадачы. Такім чынам яны даказваюць, што ў Беларусі досыць помнікаў, і за кожным з іх – неверагодная гісторыя.

*- Беларускай гісторыі хапіла ўсім нашым суседзям: і Літве, і Польшчы, і Расіі. І нам яшчэ засталося. Шкада, што тэма гісторыі Беларусі мала актуалізуецца. Людзі не цікавяцца і таму і кажуць, што ў Беларусі няма чаго глядзець. Мірскі замак, Нясвіжскі палац, Белая Вежа – гэта ўсё, пра што вядома. А насамрэч у нас яшчэ валам розных палацаў, касцёлаў ды цэркваў, вартых увагі.*

Тым часам мясцовыя жыхары з усёй Беларусі нярэдка запрашаюць здымачную групу наведаць сваё мястэчка ці вёску ды зрабіць перадачу. У іншых вёсках – наадварот: людзі пачынаюць цікавіцца гісторыяй свайго паселішча пасля таго, як пабачаць выпуск перадачы па тэлебачанні.

*- Прыемна, калі пасля перадачы мясцовыя жыхары зацікавіліся гісторыяй сваёй вёскі. Недзе ў мясцовай школе, мне распавядалі, нават стварылі музей пасля выхада праграмы. Людзі зацікавіліся гісторыяй і сталі збіраць інфармацыю пра свае палацы, капліцы ды касцёлы.*

Менавіта ў веданні сваёй гісторыі, кажа Юрый Жыгамонт, і ёсць сіла народа. Ён параўноўвае Беларусь з хлопцам-сіратой. Той хлопец жыў у дзіцячым інтэрнаце, быў ён забіты і зацюканы. Але аднойчы бабуля прывезла яму фотаздымкі ягоных бацькоў. Калі хлопец даведаўся, кім былі яго бацькі, ён проста ў момант перамяніўся.

*- Так і беларусы. Калі б мы ведалі свае карані, мы былі б іншымі людзьмі: пачалі б горы пераварочваць. Я думаю, у будучым гэта настане. Калі беларусы вернуцца да сваіх каранёў, да сваёй гісторыі – яны будуць чэрпаць сілу з гэтага. І тады ў нас будзе самая моцная краіна свету. Моц – яна ў нас саміх.*

**5 нечаканых фактаў з «Прыгодаў дылетанта»**

Астраномам усяго свету вядомы беларускі горад Брагін. Менавіта тут у пачатку XIX стагоддзя выпаў вялікі метэарытны дождж, пасля чаго метэарыты адсюль былі развезеныя па музеях свету. А ў мясцовым музеі ёсць «каменьчык» вагой 38 кг.

На гербе вёскі Парычы Светлагорскага раёна выяўлены леў з высунутым языком (яго вёска атрымала ў спадчыну ад горада Казіміра, які быў на месцы вёскі раней). Па сцвярджэнні гісторыкаў, падобная выява льва на гербе - вельмі рэдкая з’ява. Вядома, што такую ж выяву герба мае толькі Швецыя.

У вёску Ізабелін Ваўкавыскага раёна з’язджаліся моднікі з усяе Еўропы. Менавіта тут у пачатку XIX ст. была створана адна з першых ткацкіх фабрык, дзе працавалі вопытныя нямецкія майстры.

Для будаўніцтва касцёла ў вёсцы Лучай князі Пузыні ў XVIII стагоддзі запрасілі італьянскага архітэктара Карла Спампані, які выкарыстоўваў тэхналогіі, вядомыя яшчэ ў Старажытным Рыме. З вінакурні Ціхінічы, што на Рагачоўшчыне, спіртныя напоі дасылаліся нават да імператара ў Санкт-Пецярбург.

Будзем і мы чакаць да сябе ў чарговую творчую камандыроўку Ю.Жыгімонта - Шклоўскі раён вельмі прываблівы сваёй гісторыяй і знакамітымі людзьмі.

*По матэрыялах, размешчаных у Інтэрнэце*

Апошнім часам мы даволі часта становімся сведкамі бахвалення нашых дзяржаўных кіраўнікоў аб стабільнасці і эканамічным росце ў нашай краіне. Трэба напомніць, што за час кіравання дзяржавы А.Лукашэнкам **наяўны беларускі рубль абясцэніўся ў 31044 разы**. Можа ў гэтым і хаваецца сапраўдная стабільнасць…па зніжэнню спажывецкай сілы рубля?

# Чытачы пішуць, прапануюць

## Праект
## Шляхам дэмакратыі

Нацыянальная супольнасць Рэспублікі Беларусь - суіснаванне аднадумцаў-беларусаў, якія жывуць і дзейнічаюць па прынцыпу нацыянальнага адзінства дзяржаўнасці.

Даведка. Веча (старажытна-рускае "вещать" - гаварыць), народны сход на Русі, які збіраўся для абмеркавання і вырашэння дзяржаўных і грамадскіх спраў. Паходзіць ад племянных сходаў славян.

Веча існавала ва ўсіх славян яшчэ з VI стагоддзя. З узнікненнем старажытна-рускай дзяржавы Веча стала дзяржаўным органам. Яго дзейнасць накіроўвалі князі, феадалы, купцы. Калі ўлада князёў ці феадалаў была слабая ці павышалася палітычная актыўнасць насельніцтва, роля Веча павялічвалася, пашыраўся ўдзел гараджан у палітычным жыцці. Ёсць многа звестак пра Веча Пскова, Ноўгарада, Кіева, Полацка, Галіча і іншых гарадоў.

На Веча вырашаліся пытанні вайны і міру, выбіраліся і здымаліся з пасад князі, архіепіскапы, пасадскія, тысяцкія і інш. Феадальная знаць з дапамогай Веча абмяжоўвала ўладу князя ў сваіх інтэрэсах. Напрыклад, да сярэдзіны XII стагоддзя ў Полацку вялікае палітычнае значэнне набыў вечавы сход. Ім кіравалі баяры. Пры падтрымцы вечавага сходу баяры Полацка выганялі непажаданых ім князёў (такія выпадкі былі ў 1138, 1151, 1159 гг.).

У вырашэнні спраў на Веча ўдзельнічала ўсё паўнапраўнае мужчынскае насельніцтва, якое склікалася вечавым звонам ці вяшчальнікамі. З ліквідацыяй феадальнай раздробленасці і ўмацаваннем цэнтралізаванай маскоўскай дзяржавы вечавы сход страціў сваё значэнне і ў XV стагоддзі перастаў існаваць. Веча было вядомае грэкам, германцам, чэхам, палякам, харватам і іншым як народны сход для вырашэння грамадскіх і дзяржаўных спраў.

Ёсць меркаванне аднавіць, узяць за аснову прынцып кіравання Веча як вышэйшага заканадаўчага органа Рэспублікі Беларусь. Пры стварэнні Руху Нацыянальная Супольнасць Рэспублікі Беларусь можна скарыстаць яго ў сваёй дзейнасці на шляху дэмакратызацыі грамадства.

Прадстаўнікі Веча Рэспублікі Беларусь, як заканадаўцы, выбіраюцца ад пэўнай колькасці насельніцтва па агругах. Называюцца яны вечнікі Дзяржаўнага Веча Рэспублікі Беларусь.

У абласцях, раёнах, у сельскай мясцовасці таксама выбіраюцца вечнікі мясцовых вечаў нацыянальных суполак. У пярвічных веча галасаванне адкрытае; у раённыя, абласныя і цэнтральнае Веча - закрытае.

Цэнтральнае Веча Рэспублікі Беларусь выбірае трыўмвірат з трох вечнікаў, якія па чарзе праводзяць сходкі Цэнтральнага Веча. Яно прызначае галаву ўрада, які аўтаматычна робіцца прэзідэнтам рэспублікі. Роля апошняга - у асноўным наладжвацьсувязі з іншымі краінамі. Прэзідэнт падсправаздачны Цэнтральнаму Веча Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўнай мовай прызнаецца беларуская мова. Другаснымі з'яўляюцца іншыя мовы, якімі валодае загадзя вызначаная колькасць (у працэнтах) прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Рэспубліка Беларусь прызнаецца незалежнай дэмакратычнай дзяржавай. Адным з яе пастулатаў з'яўляецца беларуская мова, без якой Беларусь не можа быць прызнанай як дзяржава. Яна супрацоўнічае з усімі дэмакратычнымі дзяржавамі і не прызнае дыктатарскіх урадаў.

Гэта галоўныя накірункі дзейнасці будучай Нацыянальнай супольнасці Рэспублікі Беларусь.

*Аўдакім Ціњкавец*

# Равняемся на смелых

## Предприниматель Марьян Мисевич: белорусскоязычным снижаю цены

**В советское время он был школьным учителем математики и руководителем туристического клуба "Романтик", во время перестройки начал свое дело и с головой окунулся в возрожденческое движение.**

Как писал "Белорусский партизан", предпринимателя Марьяна Мисевича из местечка Подсвилье в Глубокском районе недавно судили за вывешивание герба «Погоня» на балконе собственной квартиры.

- Я работаю в соседних районах - Шарковщинском, Докшицком, Поставском - и реализую свои товары. Люди приходят, говорят о ценах, о курсах валют - все это их сейчас интересует. А я, продавая им товар, имею возможность проводить, так сказать, свою линию, рассказываю им о

событиях, объясняю. Есть много людей, которые зомбированы и живут в прошлом, никак не могут перестроиться. Вот это моя аудитория, где я могу без разрешения работать, - рассказал Марьяна Мисевич ”Радыё Свабода” о своей работе и жизненных принципах.

Я стараюсь найти такой товар, которого у других предпринимателей нет. Поэтому люди ко мне и обращаются, потому что знают, что я найду и привезу нужное им. А людям, которые приходят ко мне и говорят на белорусском языке, я стараюсь цены понизить. Нашим людям мы всегда рады. Правда, есть и такие хитрые, которые, зная это, говорят только ради своей материальной выгоды.

Был случай в Шарковщинском районе, когда мадам-идеолог, которую я, по-моему, учил решать задачи, подошла ко мне и сказала, что надо снять рекламу, которая у меня на белорусском языке, а по краям изображены бело-красно-белый флаг и Погоня. Дома, мол, делайте что хотите. Я ей ответил, что хорошо, но вы только напишите письменное замечание, а я проконсультируюсь об этом с юристами. Больше она не появлялась.

У меня на рабочем месте стоит всегда бело-красно-белый флажок. Однажды это не понравилось ветерану войны. Он доложил участковому милиционеру. Тот пришел - так, мол, и так, поступила жалоба, снимите. Я говорю, что это мой родной флаг и я никак не могу от него отречься. Он и отцепился.

К белорусской символике большинство людей безразлично. Но молодое поколение, которое смотрит интернет, воспринимает ее положительно. Как только появилась «Погоня» на моем балконе, они - молодцы, приветствовали возгласами «Жыве Беларусь!» Не даром я работал с ними, в школе у меня было полные два выпуска, а через клуб «Романтик» прошла не одна сотня человек. Есть, конечно, и другое восприятие. Когда журналист фотографировал закрашены мой балкон, один сосед выступил против того. «Погоня» провисела на балконе чуть больше недели, но в постановлении суда написано, что она пробыла со 2-го до 3-го мая. Мою «Погоню» замазали насильственно, ночью. И об этом в постановлении нет ни слова. Вот это мне сильно не понравилось. Пишите правду, и если я виноват, буду отвечать”.



## Автолюбители, готовьтесь

Недавно в России заговорили о возможном распространении утилизационного сбора на автомобили, которые ввозятся с территории Беларуси и Казахстана. Правда, решение об изменении действия утилизационного сбора необходимо будет согласовывать с ЕЭП и ТС.

Как отмечают эксперты, подобное нововведение в России скажется и на белорусском рынке. Вслед за РФ аналогичный закон должен будет появиться и в Беларуси. Дополнительным утилизационным сбором будут облагаться импортируемые в республику автомобили, включая и те, которые производятся или собираются в России. Это, в свою очередь, приведет к удорожанию автомобилей для покупателей.

Адказны за выпуск Мігурскі П.С.   Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618; 8 0298 499670
E-mail: agro56@tut.by.  РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ.